# ПРАЎДА

АДНАДНЁЎКА

Цана 30 гр.

Вільня, 30 Мая 1931 г.




## АД РЭДАКЦЫІ

Выпушчаючы гэтую аднаднёўку, маем на мэце выкрываць далей тые язвы, якія раз'ядаюць нашае грамадзкае жыцьцё.

Думаем, што гэты спосаб барацьбы з нашымі хваробамі будзе мець пазытыўныя вынікі.

Перадусім беларускае грамадзянства павінна нарэшце прабудзіцца ад тае летаргіі, у якой яно знаходзіцца да гэтага часу і запраўды выявіць нейкую рухлівасьць. Яно мусіць заняцца аздараўленьнем усіх праяваў нашага грамадзкага жыцьця. Павінна раз на заўсёды паставіць крыж над пэўнымі асобамі, якія займаліся шкоднаю для ўсей беларускай справы працаю. Павінны ачысьціць усе нашыя установы і арганізацыі ад элемэнтаў, якія зашыліся туды не для таго каб тварыць беларускую справу, а каб на гэтай справе рабіць інтэрас, альбо прыкрываючыся ёю,—імкнуцца да розных афёраў.

Тварыць нешта новае і карыснае для беларускага народу можна толькі тады, калі мы ачысьцім раней свае „авгіевы стайні". Тое што робіцца у нашым грамадзкім жыцьці зьяўляецца быць можа „сакрэтам" толькі для беларускага грамадзянства: грамадзяне іншых нацыянальнасьцяў добра ведаюць пра ўсе нашыя хваробы. Тая акалічнасьць, што мы слаба рэагуем на „ўсё ліхое" магчыма і слушна тлумачыцца імі тым, што нашае грамадзянства уяўляе з сябе вельмі малую вартасьць.

Мы думаем, што у нашым народзе сабраўся ужо такі запас энэргіі, які пазволіць нам перамагчы усё тое, што стаіць на перашкодзе да росту нашага грамадзкага жыцьця.

Мы думаем, што ня можа быць пасьпешнай грамадзкай працы ў будучыне, да тае пары, пакуль мы не ачысьцім беларускі грунт ад шкоднікаў і паразытаў.

З гэтаю мэтаю мы і друкуем сваю „аднаднёўку", у якой будзем апэраваць толькі фактамі, якімі-б смутнымі яны ня былі.

## НАША ГРАМАДЗКАСЬЦЬ

У кожным грамадзянстве наступаюць такія мамэнты, калі яно павінна рабіць перагляд сваіх сілаў і ўсяго таго, што ім зроблена за папярэднія часы.

Такі „перагляд" асабліва патрэбны ў нашых варунках жыцьця, калі „заданьня часу" вымагаюць ад нас, каб мы запраўды стварылі нейкія здаровыя формы грамадзкасьці, якія-б былі адпорнымі на ўсе „хваробы", распаўсюджаныя па сьвеце. Будаўніцтва здаровых формаў грамадзкага жыцьця, дзе аб'ядналіся-б усе „жывыя сілы" нашага народу—асабліва патрэбна нам беларусам.

Мы добра ведаем з якім накладам энэргіі працуюць камуністы ў тым кірунку, каб сыстэматычна разбурваць усялякія нашыя арганізацыі, маючы на мэце стварыць „хаос" і потым, пры дапамозе сваёй запраўды добра пабудаванай арганізацыі, захапіць уладу і ўвесьці сваю дыктатуру.

Мы павінны памятаць, што у кол. Расеі толькі дзякуючы таму, што расейскае грамадзянства, у сваёй большасьці бязумоўна антыкамуністычнае, ня было ў адпаведны спосаб арганізавана, і дзеля аднаго гэтага, стала ахвяраю камуністычнай дыктатуры.

Але дзеля таго, каб пабудаваць нешта здаровае і моцнае, трэба раней узяцца за „чыстку" таго, што мы маем цяпер, бо у большасьці выпадкаў у існуючых нашых арганізацыях завяліся такія „хваробы", якія ў аканчальным разрахунку даюць толькі аргументы камуністам, маючым прызвычаяньне даводзіць, быццам „буржуазны сьвет настолькі прагніў, што ня ў сілах ужо пабудаваць нешта здаровае і карыснае для народу.

Каб вылячыцца ад грамадзкіх хваробаў — трэба перадусім іх выявіць, выявіць ўсю праўду—якою-б непрыемнаю яна для нас ня была, памятаючы, што ўсякі арганізм, які незасуджаны на аканчальную гібель, здольны весьці адпорную барацьбу.

Самым небясьпечным зьявішчам у нашым грамадзянстве ёсьць тое, што яно ня маець адналітага складу, нават з пункту гледжаньня нацыянальнага.

Ёсьць у нас частка грамадзянства, якая „прылучылася" да беларускага руху толькі дзеля таго, што наагул лічыць сваім заданьнем „паглыбляць" усякі рух і выводзіць яго на „рэвалюцыйны шлях".

Палітыка Камінтэрну палягае на тым, каб за ўсякую цану выкарыстаць незадаволеньня нацыянальных меншасьцяў сваім праўным становішчам, дзеля чаго агэнтаў Камінтэрну і цікавіць кожная нацыянальная арганізацыя, у якой яны маглі-б весьці сваю разбураючую працу, прыкрываючыся нацыянальнымі лёзунгамі.

Да чаго можа давесьці такая праца ў аканчальным разрахунку—бадай ня варта затрымоўвацца, добра ведаючы, што фактычна творыцца ў Савецкай Беларусі.

Сярод гэтага тыпу „беларусаў", якія заангажаваны ў камуністычнай працы на кіруючыя становішчы, менш за ўсё можна спаткаць запраўдных беларусаў. Гэтыя апошнія выкарыстоўваюцца закансьпіраванымі кіраўнікамі, як гарматняе мяса, і набіраюцца галоўным чынам з мала сьвядомай і здэмаралізаванай часткі нашага народу.

Другую частку беларускага грамадзянства складаюць г. зв. „тоже-белорусы" з былых расейскіх чорнасоценцаў, кадэтаў, дэнікінскіх недабіткаў і іншых „пагарэльцаў," ідэалам якіх зьяўляецца „единая и неделимая матушка Расея."

Гэтыя тыпы „прымазваюцца" да нашых арганізацыяў і зусім зразумела, што прыносяць там адну толькі шкоду.

Нарэшце трэцьцюю групу складаюць запраўды нацыянальна-сьвядомая і ідэёвая частка нашага народу, якая імкнецца да нацыянальнага і культурнага адраджэньня. На жаль яна здаецца, дзякуючы інтрыгам папярэдніх групаў, будзе амаль ці ні самаю слабою з усіх іншых...

Нават каб гэта было і так—яна, толькі яна павінна брацца за беларускую „справу“.

Гэтая група павінна правесьці гэнэральную ачыстку нашага грамадзкага жыцьця і, выкінуўшы з яго усё ліхое і непатрэбнае, пабудаваць здаровыя формы арганізацыяў. Толькі тады мы пачнем нармальна разьвівацца і культурна, і нацыянальна, і толькі тады павялічыцца па ага нашай грамадзкасьці сярод іншых народаў.

Сама ачыстка, ці аздараўленьне нашага грамадзкага жыцьця, справа ня зусім лёгкая, маючы на ўвазе, што ў працягу апошніх 10—12 гадоў яно сыстэматычна разбурвалася і занячышчалася рознымі чыньнікамі, якім залежала на тым, каб мы ніколі не паўсталі на ногі.

У нашым грамадзкім жыцьці завялася сьмердзякоўшчына, на грунце якой вырас бальшавізм, дзякуючы чаму ўсё беларускае пачало памылкова насіць нейкі антыдзяржаўны характар.

Гэтая-ж самая „сьмердзякоўшчына“ прывяла да таго, што ўсе нашыя інстытуцыі і арганізацыі ператварыліся ў нейкія прыватныя крамкі, дзе не заўсёды можна дастаць тавар добрай якасьці...

На паперы мы маем шмат розных арганізацыяў, але на жаль імі мала хто цікавіцца і ніхто, апрача „блізкіх да справы“ людзей, ня ведае, што там робіцца.

Уся праца гэтых арганізацыяў зводзіцца да таго, што яны ці то праядаюць асноўны капітал (як напр. Выдавецкае Т-ва), ці наагул „кансумуюць“ тыя субвэнцыі, якія выдаюцца ад ураду.

Ніякай творчай пазытыўнай працы, якая-б уцягнула ў грамадзкае жыцьцё больш шырэйшыя колы грамадзянства—у нас не наглядаецца.

Нават такая арганізацыя, як Цэнтрасаюз, якая па ідэе сваёй павінна аб'яднаць усе нашыя інстытуцыі і арганізацыі і якая мае права і магчымасьць павесьці шырокую працу на правінцыі, дзякуючы свайму няўдольнаму кіраўніцтву, ператварылася ў мертвую арганізацыю.

На ўсю грамадзкую працу захапіла „манаполь“ пачка сьпеўшыхся людзей, якія самі сябе „адарыуць“ і самі сябе выбіраюць на розныя адказныя становішчы.

Наглядаецца такі дзікі і мала дзе спатыканы вобраз: у аднэй арганізацыі п. X. выбіраюць на старшыню ўраду, а п Y. на старшыню рэвізыйнай камісіі тае-ж арганізацыі.

У другой арганізацыі мы бачым ізноў тых жа самых паноў—толькі там п. Y. пралазіць на старшыню ўраду, а п. X на старшыню рэвізыйнай камісіі.

Гэтакі парадак наглядаецца амаль што ўва ўсіх нашых установах і арганізацыях. „Самаахвярнасьць“ гэтай пачкі паноў даходзіць да таго, што яны ўмудрыліся пралезьці на кіруючыя становішчы ўва ўсе арганізацыі і інстытуцыі—у выніку чаго ніхто з іх добра ня ведае, што там творыцца.

Захапіўшы манаполь на грамадзкую працу гэтая пачка вельмі баіцца яго страціць і ў кожным новым чалавеку бачыць свайго сьмяртэльнага ворага.

Цікавым зьяўляецца і тое, што звычайна яны зусім ня круцяцца каля такіх арганізацыяў, якія ня маюць грашовых сродкаў.

Ёсьць у нас напр. завочныя коопэратыўныя курсы, якія налічваюць да сотні слухачоў і ў якіх працуе пара запраўды самаахвярных коопэратараў-студэнтаў.

І вось выявілася цікавая рэч: ніхто з нашых „дзеячоў“ і фаховых коопэратараў (акрамя гр. Б) ня толькі ня прыйшоў з абяцанаю дапамогаю гэтым курсам, але нават ня цікавіцца іх лёсам... Усё гэта наводзіць на думку, што ў нас яшчэ няма запраўднай грамадзкай працы, а ўсе зводзіцца да звычайнага „делячества“ і зацікаўленьня тымі інстытуцыямі, якія маюць больш салідныя грашовыя субвэнцыі...

У сваю грамадзкую працу нашы „дзеячы“ ўносяць нейкую таямнічасьць і кансьпірацыю, баючыся, як агню, голасу публічнай апініі і, лічучы сябе „непаграшымі,“ не здаюць ніякіх справаздачаў.

Усё гэта робіць вельмі цяжкае ўражаньне на староньняга чалавека і дашчэнту разбурвае і дэмаралізуе нашую грамадзкасьць.

Атмасфэра сьмердзякоўшчыны настолькі згусьцілася, што далей немагчыма ўжо вытрымаць і трэба набрацца сілаў, каб здолець правесьці радыкальную ачыстку нашага запаганенага грамадзкага грунту.

Прарабіўшы гэтую цяжкую працу—мы павінны асьвяжыць усе нашыя арганізацыі, уліўшы туды новыя маладыя сілы, якія сваёй ідэёвао працао павінны паказаць усім, што Беларускі Народ мае яшчэ жывыя, здаровыя і ўзапраўды самаахвярныя і творчыя сілы.

# СЬМЕРДЗЯКОЎШЧЫНА

Тая акалічнасьць, што наша Бацькаўшчына перацярпела многа гістарычных бедаў—вельмі ўемна адбілася на сучасным нашым грамадзкім жыцьці.

Пры нізкім культурным роўні нашага жыхарства і пры слабым нацыянальным пачуцьці—зьявілася магчымасьць для розных дзяльцоў і афэрыстаў выкарыстоўваць нашую справу ў сваіх асабістых мэтах. Гэныя людзі звычайна адзяваюць на сябе незалежніцкія шаты і ўкрываючыся імі, як шырмаю ці прыманкаю ловяць наіўных людзей.

Да такога тыпу „дзеячоў“ трэба аднесьці больш чым вядомага на нашым грунце Ант. Луцкевіча, які забіў сабе ў галаву, што ніхто іншы як ён зьяўляецца „патрыярхам“ беларускага руху.

Ня толькі ён сам лічыць сябе „патрыярхам“—але ёсьць людзі, якія таксама прызнаюць за ім патрыяршае дастоенства, тытулуючы яго„ патрыярхам беларускай здрады.“

Нам здаецца, што гэтае апошняе акрэсьленьне больш падобна да праўды, чым тое, якое ён хоча надаць сам сабе.

Запраўды паўстае у многіх пытаньне—кім фактычна зьяўляецца гэты чалавек, які прынёс столькі клапотаў белар. грамадзянству, якая яго ідэолёгія, да чаго ён імкнецца і што ён зрабіў для беларускай справы.

У сваёй брашуры „За 25 гадоў“ маючай аўтабіяграфічны характар,—ён зашмат хваліць сам сябе і ўжо адно гэта робіць дрэннае ўражаньне аб самым аўтары: на кожнай старонцы спатыкаем „я з братам,“ „брат Іван і я,“ мы з братам“ рабілі тое а тое.

Зусім магчыма, што гэты „брат“ нешта й зрабіў для беларускай справы, але гэта яшчэ ня значыць, што другі „брат“ мае права прыкрывацца яго іменем.—

Гэтая худзенькая брашурка, ў якой апісана нават, як прастрэлілі аднаму з братоў нагавіцы, дае чытачу вельмі многа для зразуменьня.

Аўтар яе хварэе на г. зв. „manja grandiosa“, якою толькі і можна вытлумачыць тую сьмяхотную акалічнасьць, што гэты чалавек ня стыдаецца пісаць аб самым сабе хвалебныя перадавіцы, як гэта даволі часта здараецца з нашым „патрыярхам.“ Калі за ўсе яго жыцьцё, здаецца ніхто не напісаў аб ім ані воднага добага слова, то магчыма гэтая акалічнасьць змушаець яго да самарэклямаваньня...

Скромнасьць зьяўляецца якасьцьцю запраўды грамадзкага чалавека, а ўсялякая самамненьне і самарэкляма адзнака ўмысловай агранічанасьці ці свайго роду хваробы, калі наагул можна назваць хваробаю праявы дашчэнтнага зьнішчажэньня ўсіх дадатніх праяваў людзкага духу.

Каб гэты „патрыярх“ быў толькі хворым чалавекам, то было б яшчэ паўбяды: у пэўны момант, калі хвароба выявілася-б у пагражаючых формах, нясчаснага прышлося-б адправіць туды, дзе знаходзяцца ўсе ўмыслова-хворыя людзі.

На вялікі жаль для нашага грамадзянства—гэтая хвароба носіць асабліва—надзвычайны характар, які рэдка прыходзіцца наглядаць у прыродзе.

Адменнаю здольнасьцю яе зьяўляецца тое, што чалавек гэты ўносіць нейкую ўмысловую заразу ў тое серадовішча, у якім ён круціцца. Усё пачынаець гнісьці, як толькі сустрэнецца з крыніцаю гэтай асаблівай заразы, усякі чалавек, які ня маець сільнай волі і характару і які паддаецца ўплыву гэтага „брата“, пачынаець „псавацца“ і ў выніку гэтага псаваньня ператвараецца ў маральную нікчэмнасьць. Гэтая акалічнасьць зьяўляецца вельмі небясьпечнаю асабліва для маладых, яшчэ не загартаваных характараў. Ёсьць на-

іўныя людзі, якія вераць, што гэты чалавек мае нейкую ідэолёгію, трудна зразумелую для сярэдняга грамадзяніна.

На нашу думку ён ня мае ніякай ідэолёгіі.

Тое, што ўяўляе ягоную ўнутраную сутнасьць нічым іншым, як духоўным разлажэньнем, назваць ня можна. У свой час вельмі ўдачна ахрысьцілі яго „Сьмердзяковым“ і трэба сказаць праўду, гэты назоў—як раз да твару нашаму „незалежніку“—больш удачнага прыдумаць цяжка.

Запраўды варта прыглядзецца да маральнага аблічча гэтага чалавека. Мае прывычку пісаць і гаварыць а сабе, што толькі ён і ніхто іншы зьяўляецца творцом акту незалежнасьці Беларусі, у той час калі усім вядома, што на агалошаньні акту незалежнасьці Луцкевіч браў удзел як звычайны госьць з Віленшчыны—і толькі, а сама думка пра такі акт зьявілася ў іншых людзей, нічога супольнага з Луцкевічам ня маючых.

Падчас нямецкай акупацыі жыве у вельмі добрай „камітыве“ з вядомым нямецкім „дзеячом“ Зуззэмілем, на грошы якога выдае „Гоман.“ Кажуць, што гэты самы Зюзэміль, жывучы у Бэрліне і цяпер ня страціў зацікаўленьня да беларускіх справаў.

У самым пачатку існаваньня Польшчы разам з Тарашкевічам і агентам II аддзелу цн. штабу вядомым афэрыстам Ваевудзкім, круціцца каля дэфэнзывы і, як той Заглоба Інфлянтамі, гандлюе Беларусьсю.

Бачым яго у г. зв. Грамадзянскім Сабраньні, на якім умудрыўся зарабіць даволі салідную суму за пераўступку памешканьня пад гэтае сабраньне.

Асабістыя парахункі ў гэтага чалавека са сваімі сябрамі даходзяць да такога напружаньня, што напрыклад Валэйша змушаны быў з бізуном у руках прыбегчы да „doraźnego wymiaru sprawiedliwości.“

Гэтакім самым спосабам закончылі свае сяброўства з Луцкевічам Мамонька, Косьцевіч і іншыя грамадзяне, якім прышлося прыбегнуць да грубых і вульгарных аргумэнтаў, страціўшы надзею, што аргументацыя агульна людзкая будзе зразумелай для падобнага тыпу людзей.

Надыйшла новая эра... Нашаму ўсходняму суседу спатрэбіліся „малайцы,“ якія-б памагалі за добры магарыч распальваць міравы пажар, выкарыстоўваючы запраўды ненармальнае палажэньне беларускага народу ў межах Польшчы.

Прыпатрэбіліся „ідэолёгі,“ якія-б за добрую „мзду“ увасхвалялі ўсё тое, што творыцца ў камуністычным Усходзе і малявалі ў самых брудных хварбах заходня-эўрапейскі лад.

Сьмердзяковы з усёю шчырасьцю прыступілі да працы.

Грамадаўскія газэты якія рэдагаваліся Луцкевічам запоўніліся самымі хвалебнымі гімнамі аб савецкіх парадках. У газэтным аддзеле „З Савецкай Беларусі“ апісваліся такія рэчы, што сотні хлапцоў шукалі ўсякай магчымасьці, каб перайсьці кардон і апынуцца потым—гэнь аж за Уральскімі гарамі.

Паверыў Луцкевічу і адзін наш драматург Аляхновіч, які і да гэтага часу сядзіць на Салавецкай лядоўні.

Але ўсе маючае пачатак—мае і свой канец.

„Дапамога“ камуністаў прывяла да таго, што „Грамаду“ пасадзілі на лаву абвінавачаных.

Знайшлося там месца і для Луцкевіча, не глядзючы на ўсе яго хітрасьці і „кансьпірацыю.“ Усе спадзяваліся што на судзе гэты чалавек зусім адкрыта скажа, што ніхто іншы, як ён кіраваў грамадаўскай прэсаю і наагул ня толькі прызнаецца да ўсяго таго, што ён рабіў у грамадаўскім руху, але дасьць тлумачэньне сваіх чынаў, якое-б задаволіла нашую грамадзкасьць.

Нікому іншаму, а толькі яму выпадала вытлумачыць прычыны паўстаньня гэтага руху, давесьці што, як такі, ён ня быў нейкім надзвычайным зьявішчам, а разросься да такіх колясальных разьмераў, дзякуючы тым палітычным варункам, якія панавалі ў Польшчы і г. д.

Зрабіць гэта было зусім магчыма тым балей, што Грамада зьяўлялася легальнаю арганізацыяю, праграма і статут якой былі зарэгістраваны адпаведнымі ўладамі.

Яму і нікому іншаму выпадала вытлумачыць, што грамадаўскі рух, як такі, нічога супольнага не павінен быў мець з камуністычным, а калі выявілася тая акалічнасьць, што камуністы ў многіх выпадках вадзілі „рэй“ у Грамадзе—дык гэта сталася толькі дзякуючы прычынам, ад большасьці абвінавачаных незалежных.

Адным словам,—Луцкевічу трэба было ў той ці іншы спосаб вытлумачыць, як свае ідэолёгічнае кіраўніцтва Грамадою, так і той палітычны напрамак, які прыняла дзеяльнасьць гэтай арганізацыі.

Але ўсё тое, што павінен быў зрабіць запраўдны грамадзкі дзеяч—ня мог зрабіць Луцкевіч. Ён паступіў чыста па „сьмердзякоўску“—лгаў, адрокся Грамады і гэтым самым усю віну перакідаў на плечы іншых. Дайшло нават да таго, што адказнасьць за грамадаўскую прэсу звальваў на розных зіц-рэдактараў, якія што дня мяняліся і ўцякалі ў Саветы.—

На суд паклікаў такіх сьведкаў, якія даводзілі яго лёяльнасьць .. адносна Польскае дзяржавы.

Усё гэта рабіла вельмі дрэннае ураджаньне ня толькі на абвінавачаных, але і на польскае грамадзянства, якое дзякуючы гэтаму, толькі лішні раз пераканалася ў тым, як многа сярод нашага грамадзянства розных шкодных элемэнтаў. Калі добра ўдумацца ў прычыны такога захаваньня з боку Луцкевіча дык трэба прыйсьці да перакананьня, што інакш ён і ня мог трымаць сябе на судзе. Гэтаму чалавеку трэба было за ўсялякую цану ратаваць сваю скуру, бо толькі яна мела для яго пэўную вартасьць.

Усё іншае—як напр. ідэолёгія — падобнага тыпу людзей мае значэньне другараднае, якое мяняецца ў залежнасьці ад рынковай цаны: хто больш дасьць—той і атрымае ўгрунтаваньне адпаведнай „ідэолёгіі“.

На працэсе Грамады выявілася, што не аплацілася-б сядзець 12 ці 8 гадоў за тыя мінуты, калі так „добра“ жылося Сьмердзяковым, і вось „матэрыялістычна-дыалектычны“ склад іх розуму прыходзіць да перакананьня, што трэба „ратавацца“.

І Сьмердзяковы ўратавалі сваю скуру, але ўратавалі яе з вялікаю шкодаю як для рэшты абвінавачаных, так і да агульнай нашай справы, якая ад гэтага шмат прайграла, бо выявілася якія маральныя нікчэмнасьці браліся за выразшэньне.

Людзі упорчыва гавораць, што Луцкевіч і К-о зрабілі рэзкі „ідэолёгічны“ паварот у зьвязку з сваім апраўданьнем...

Як бы там ня было фактам зьяўляецца тое, што адразу, па звальненьні з вастрогу, яны пачалі вычышчаць усё тое, што ў працягу многіх месяцаў разводзілі з вялікім накладам энэргіі.

Павыкідалі з гімназіі вучняў, як раз за тое, да чаго падбухторывалі ў тыя часы, калі іх дзеяльнасьць у гэтым кірунку была прыемнаю „з усіх бакоў“, а галоўнае ня была ўжо такою бескарыснаю...

І вось калі пераглядзець „грамадзкую працу“ гэтага чалавека ў працягу апошніх 10—15 гадоў, запраўды атрымаем жудасны вобраз.

Перадусім з ліцьвіна якім ён адрэкамандаваўся ў свой час у Літвеператвараецца ў беларуса, моцна асядае на віленскім грунце і адсюль пачынаецца ўсё ліха ў нашым грамадзкім жыцьці. За ўвесь гэты час ён займаўся толькі разбураючаю працаю. Ён разбурае пачаткі народніцка-сацыялістычных арганізацыяў.

Будучы сам у вельмі блізкім „кумаўстве“ з такім ягамосьцям як Ваевудзкі і К-о, ускладае на сябе незалежніцкія шаты і пачынае бэсьціць усё тое здаровае, што не пасьпела нават пусьціць расткоў.

Падчас Грамады, стаўшы на чыста камуністычную плятформу, чыста бальшавіцкімі мэтадамі валіць на ўсіх тых, хто ня мілы камуністычнаму сэрцу.

Зрабіўшыся полёнафілам, і стварыўшы г. зв. беларускую санацыю, пераходзіць на ўтрыманьне польскага скарбу, надрабляючы перад наіўнымі міну, што з гэтым апошнім ён нічога супольнага ня мае.

У газэце „Наперад“, у доказ сваёй „лёяльнасьці“, друкуе партрэт Прэзыдэнта, а разам з гэтым перад грамадзянствам стараецца ўкрыць свае кіраўніцтва газэтаю, хаваючыся за плячыма падстаўнога зіц-рэдактара.

На пачатку сваёй полёнафільскай кар'еры пачынае ганіць усё тое, перад чым стаяў нядаўна на каленях.

Павеяў нейкі іншы „вецер“ і мы бачым, што гэты чалавек шукуецца ўжо да зусім новай „орыентацыі“, якая пры пэўных варунках можа аказацца больш выгаднаю, чым усе папярэднія...

Адным словам,—нейкае зачарованае кола і круцельства, якому не прадбачыцца канца.— Такіх „дзеячоў“ магло парадзіць толькі тое ліхалецьце, якое перажывае нашая Бацькаўшчына. У выніку сваёй „грамадзкай“ дзеяльнасьці Луцкевіч стварыў „сьмердзякоўшчыну,“ разваліў ўсе падваліны нашага грамадзянскага жыцьця. здэмаралізаваў моладзь, скалечыў яе душу.

Дзякуючы працы Луцкевіча на нашай Бацькаўшчыне,— мог разьвіцца толькі бальшавізм у самых вульгарных яго праявах.

Брудная лаянка і брахня, галоўную крыніцаю якіх былі заўсёды газэты, рэдагаваныя праз „патрыярха,“ парадзілі ў нашым грамадзянстве недавер да ўсяго беларускага, падарвалі пашану да грамадзкіх дзеячоў усіх кірункаў, а гэта, ў сваю чаргу, стварыла вельмі падатны грунт для агітацыі камуністаў.

Толькі ў такім грамадзкім балоце як наша, дзе з прыемнасьцю купаецца Луцкевіч са сваімі прыхільнікамі і „вучнямі“ камуністы маглі загнезьдзіцца ў такіх разьмерах да якіх яны разьвіліся на нашых землях. Магчыма, што гэта і ёсьць яго аканчальная мэта...

Гэты чалавек праз усё свае жыцьцё, вядучы разбураючую працу ў нашым грамадзкім жыцьці, не стварыў нічога такога за што было-б удзячным тое пакаленьне, якое ідзець нам на зьмену.

Стварыўшы сьмердзякоўшчыну, ён панізіў павагу беларускай справы ў грамадзянстве іншых нацыянальнасьцяў, узгадаваў цэлыя кадры грамадзкіх нікудышнікаў і прадажных канальляў, растліў душу нашага народу.

Залічаючы сябе „да безвызнанёўцаў і марксыстаў,“ як адрэкамэндаваўся на судзе—праз увесь час перашкаджаў у працы тых людзей, якія бачылі ў беларусізацыі царквы і касьцёлу адзін з пэўных шляхоў да адраджэньня нашага народу.

У выніку гэтага мы маем: у праваслаўнай царкве—падваліны расейскага чорнасоценства, а ў каталіцкіх касьцёлах базу эндэцкай рэакцыі.

Кіруючы Цэнтрасаюзам з-за плячаў тых людзей, якія не змаглі выявіць самастойнасьці свайго характару,—„замарозіў“ дзеяльнась гэтай арганізацыі, якая пры іншых умовах, мела-б аграмаднае значэньне ў нашым грамадзкім жыцьці.

На адказныя пляцоўкі падсоўваў „сваіх людзей“ усе вартасьці якіх зьмяшчаліся ў тым, што ўмелі прыслужвацца і нашэптываць.

Сьмяротным ворагам лічыў усіх тых, хто ня мог пагадзіцца з яго хацяж-бы і ня слушнымі думкамі.

Такім з'ьяўляецца той чалавек, ад якога бягуць усе, хто хоць крыху сябе шануець і якога многія лічаць злым духам беларускага народу.

*Ільменскі.*

## „Найпаважнейшыя прадстаўнікі“ нашага грамадзянства забралі голас.

Калі я прыступаў да рашучых крокаў з мэтаю парваць з групаю Луцкевіча і К-о і, паскольні пазволяць мае сілы, хоць крыху ачысьціць запаганены беларускі грунт, то раней ужо знаў якую аргумэнтацыю яны пусьцяць у рух.

Надзеі мае апраўдаліся і мы ўсе маем магчымасьць лішні раз пераканацца наскольні агранічаным зьяўляецца багаж аргумэнтацыі тае групы, якая сама сябе залічае да „найпаважнейшых прадстаўнікоў беларускага грамадзянства“.

Імёны Паўлюкевіча, Гурына і іншых ня могуць застрашыць як мяне, так і тых грамадзян, якія таксама імкнуцца да радыкальнай ачысткі беларускага балота.

Калі казаць праўду — дык як раз Луцкевіч са сваёю кумпаніяю, а ніхто іншы знаходзіцца ў вельмі блізкім сваяцтве як з Паўлюкевічам, так і з Гурынам.

Ад першага—яны перахапілі спадак і адчынілі сваю крамку, у якой гандлявалі таварам вельмі падазроннай якасьці. Але ўся бяда гэтых людзей палягала на тым, што захапіўшы спадак Паўлюкевіча і ўзяўшыся за „працу“ яны немаглі парваць сваіх сувязей з Гурынымі, з якімі іх лучыць колішні „ідэолёгічны“ супольны фронт... І вось у выніку такой камбінацыі—„найпаважнейшы“ з усіх—Луцкевіч змог толькі стварыць г. зв. сьмердзякоўшчыну, у выніку якой астаўся ў нашым грамадзянстве смурод і больш нічога. Што датычыць тае групы, да якой я належу — дык яна перад сабою мае задачу ачысьціць наш грунт як раз ад сьмердзякоўшчыны і розных брудаў, якія дзесяцігодзьдзямі зьбіраліся ў нас, дзякуючы вельмі інтэнсыўнай працы розных „тварцоў“, а галоўным чынам дзякуючы „самаахвярнай“ працы п. Луцкевіча.

Сьмешным проста зьяўляецца тое, што палітычныя пагарэльцы фірмы Луцкевіча лічуць, што пакінуўшы іх сьметнік—гэтым самым я „апынуўся па-за беларускім грамадзянствам“.

Трэба фактычна захварэць на „manja grandiosa“ каб дагаварыцца да падобных рэчаў.

Даволі характарным для гэтага сьметніка зьяўляецца і тое, што яго дзеячы упорчыва страшаць грамадзянства Паўлюкевічам, Валэйшаю і іншымі, якія даўно ўжо адыйшлі ад грамадзкага жыцьця і не выяўляюць ніякіх прызнакаў свайго існаваньня. Мне здаецца, што гэтымі трафарэтнным фразамі бадай ці ўдасца Луцкевічу адурыць грамадзянства.

Гэтакія зацемкі, як напр. пра Валэйшу, можна вытлумачыць яшчэ „г і с т а р ы ч н ы м і“ успамінамі Луцкевіча, які відаць ніяк ня можа пазбыцца таго дрэннага ўражаньня, якое засталося ў яго ад часоў ліквідацыі свайго блізкага сяброўства са сваімі спадкаладаўцамі. Беручы пад ўвагу падобнага роду „псыхолёгічны мамэнт“ няма нічога дзіўнага ў тым, што Луцкевіч за ўсялякую цану хоча „зьвязаць“ мяне з гэтымі людзьмі, хаця я і не ў такі брутальны спосаб, як некаторыя з прыяцеляў Луцкевіча, парваў з ім сваё сяброўства.

Цяпер перайду да фактычных паправак, якія лічу патрэбным зрабіць да тых інсінуацыяў, якія знаходзяцца ў „Бел. Звоне.“

Перадусім я нікога з групы Луцкевіча не абвінавачваю у „камунізьме“ як бы гэтага быць можа хацелася-б некаторым з іх. Я кажу толькі, што „дзеячы“ з пад знаку Луцкевіча наагул ня маюць ніякіх пераконаньняў, ніякай ідэолёгіі, доказам чаго зьяўляецца іх палітычнае круцельства і вельмі частыя зьмены „орыентацыяў...“

Калі напр. Луцкевіч хваліць камуністычныя парадкі—гэта яшчэ не зьяўляецца доказам яго „камунізму“. Гэта можа рабіць і той чалавек, які „на ўсялякі выпадак“ хацеў-бы заасэкураваць сваю скуру.

Калі прадажная кабета робіць вочка да мужчыны—гэта яшчэ ня сьведчыць аб яе каханьні.

Луцкевіч і К-о абураюцца на мяне за тое, што

я быццам абліваю гразёю беларускіх дзеячоў і ўстановы, згуртаваныя ў Цэнтрасаюзе. Я гэтага не раблю, а толькі канстантую факты.

А фактам зьяўляецца тое, што самі гэтыя дзеячы па вушы залезьлі ў балота і запаганілі ўсе ўстановы.

Нічога іншага адносна ўстановаў я не казаў як толькі тое, што трэба каб яны ператварыліся ўзапраўды грамадзкія арганізацыі, давалі справаздачы былі даступнымі для грамадзкага кантролю і г. д.

Кажу і цяпер, што ня можна нават і „найпаважнейшым“ весьці справы так, як яны вядуцца да сёняшняга дня.

Аблівае гразёю свае ўстановы той, што не па грамадзку вядзе справы, ператвараючы ўстановы ў прыватныя крамкі з вельмі дрэнна пастаўленаю рахунковасьцю.

Вось гэтае маё дамаганьне здаецца найбольш і абураець усіх занадта вядомых і паважаных дзеячоў тым балей, што гэтага дамагаецца чалавек „зусім невядомы ў беларускім руху“. Луцкевічу і К-о вельмі непадабалася яшчэ і тое, што я напісаў „агідны“, як ён кажа, пасквіль проці Тарашкевіча — інтарэсы якога вельмі блізка да сэрца прыймаюць нашы „агульнашанаваныя“ грамадзяне.

Называючы маю брашуру „агідным пасквілем“ яны гэтым самым павінны пагадзіцца з тою характэрыстыкаю, якую даець ім ня менш паважаны Тарашкевіч.

А характэрыстыка гэта занадта вядома, каб на ёй затрымоўвацца.

Трэба аддаць справядлівасьць Тарашкевічу, што лепшага „літэратурнага твору“ чым той, які рассылалі камуністы падчас выбараў, ён не напісаў і бадай ці напіша ў будучыні.

Уся сіла яго таленту была ўложана ў той твор, у якім як раз Луцкевічу адводзіцца найбольш увагі і ў гэтым здаецца амаль ці не адзіная заслуга Тарашкевіча перад грамадзянствам. Найцікавейшым з усяго зьяўляецца тое, што Луцкевіч з кумпаніяю набраліся настолькі сьмеласьці, што абвінавачваюць мяне ў папоўненьні раду грубых неэтычных пастункаў.

„Карыстаючыся падтрыманьнем процібеларускіх дывэрсантаў з „Бел. Крыніцы“—пачаў агідную правакацыйную зьвягу проці дзеячоў, згуртаваных у Цэнтрасаюзе.

Рад груба неэтычных паступкаў, учыненых Акінчыцам на гэтым грунце, меў сваім вынікам тое, што Акінчыц быў прымушаны пакінуць сваё становішча сэкрэтара Ц. С., а агульны сход Бел. Дабр. Т-ва... абвесьціў вычарпаным мандат Акінчыца“.

На жаль Луцкевіч піша пра гэтыя „неэтычныя“ мае паступкі ў даволі туманнай форме, і гэта акалічнасьць можа прывесьці грамадзянства да памылковых вывадаў.

Каб ня было ніякіх непаразуменьняў з гэтага боку—змушаны крыху папоўніць інфармацыі, пададзеныя у „Беларускім Звоне“. Тое, што Луцкевіч называець „агіднаю правакацыйнаю зьвягаю проці дзеячоў“ — было нічым іншым як маім упорчывым дамаганьнем ад тых „дзеячоў“ высьвятленьня, якімі мэтамі яны кіраваліся калі залезьлі з падабранымі ключамі ў мой прыватны пакой і забралі там тое, што ім неналежала.

**Зрабілі гэта без майго ведама і хацелі гэты факт укрыць.**

Я дамагаўся, каб далі мне задаваляючае тлумачэньне—і гэтага тлумачэньня я не атрымаў ад „дзеяча“ Луцкевіча, дзеля таго я, ня бачачы іншага выхаду, змушаны зьвярнуцца ў гэтай справе з адкрытым пісьмом да ўсяго грамадзянства.

Ясна, што выкрыўшы такі агідны факт, я ня мог падзякаваць Луцкевічу і чакаць пакуль ён зробіць нешта падобнае і ў наступны раз.

Я памятую яшчэ і тое, што у 1926 г. з рэдакцыі „Нар. Справа“ прапаў мой рукапіс, які апынуўся у К.П.З.Б., а адтуль папаў у рукі паліцыі і нарэшце фігураваў на судзе—у выніку чаго гэты рукапіс прыслужыўся між іншым да 8 г. выраку.

Пасьля таго, як я моцна запратэставаў у прэзыдыюм Ц. С. проці такой „пазыкі“, назваўшы рэчы сваім іменем — Луцкевічу нічога іншага не заставалася, як заняцца ўсякімі падкопамі проці мяне, каб выкурваць па-троху адусюль, адкуль было можна, маючы на мэце зьліквідаваць мяне ў ціхі спосаб.

Сабраў, між іншым — сваю шопку пад назовам Дабр. Т-ва, ня выслаў мне павесткі на гэты сход і там, разам са сваёю прыбочнаю гвардыяю, нешта пастанавіў, аб чым я даведаўся толькі з газэты.

Але на гэта усё ня прыходзіцца зьвяртаць увагі бо ёсьць рэчы паважнейшыя: наагул ўсе тыя арганізацыі, якімі кіруець Луцкевіч, не павінны існаваць у тым выглядзе, у якім яны існуюць сёньня. Аб гэтым, аднак, зашмат гаворыцца у сёньняшняй аднадзёнцы, каб яшчэ раз парушаць гэтае пытаньне.

Фактам зьяўляецца толькі тое, што па сваім звальненьні з вастрогу я зрабіў вялікую абмылку, прыступіўшы да супрацоўніцтва з „дзеячамі“ з пад знаку Луцкевіча—які патрапіў нават залезьці ў пакой і забраць адтуль тое, што яму не належала.

Але той ня мыляецца, хто нічога ня робіць...

Весьці далейшую палеміку з Луцкевічам і яго прыяцелямі і выкрываць іх ілжу лічу за рэч зусім непатрэбную, бо яны настолькі залгаліся і залезьлі ў балота, што ніколі не будуць у сілах даць мне адказ па сутнасьці тых галоўных абвінавачаньняў грамадзкага зьместу, якія я ім закідаю. А абвінавачаньня гэтыя даволі ясна сфармуляваны як у сёньняшняй аднадзёнцы, так і ў папярэдняй.

*Ф. Акінчыц.*

# НА СУД УСЯГО ГРАМАДЗЯНСТВА

Падчас калядных сьвятаў у маё прыватнае памешканьне (Вострабрамская 9), падчас маёй адсутнасьці, пры дапамозе падабраных ключоў, залез Антон Луцкевіч, які капаўся ў маіх паперах і забраў выбарную перапіску і мае прыватныя лісты. У якіх мэтах было гэта зроблена ўстанавіць ад самага п. Луцкевіча мне не ўдалося.

Калі я быў яшчэ сябрам прэзыдыюму Цэнтрасаюзу зьвяртаўся туды з пратэстам проці такога гвалту, аднак ніякага задавальняючага мяне тлумачэньня пра прычыну такой надзвычайнай візыты не атрымаў. У замену гэтага старшыня прэзыдзюма Ц.С. А. Трэпка, бязумоўна па загаду Луцкевіча — дамагаўся каб я надрукаваў у газэтах запярэ.

чэньне гэтага факту і нават падсоўваў да подпісу ўжо раней загатаваны зьмест такога запярэчаньня.

Праз увесь гэты час я спадзяваўся, што Ан. Луцкевіч дасьць мне хоць якое-небудзь выясьненьне свайму ганебнаму паступку, але надзеі гэтыя мяне завялі. Лічачы, што пры тых адносінах, якія ўстанавіліся у мяне з Луцкевічам, немагчыма перадаць усю гэтую справу грамадзкаму суду— змушаны перадаць яе на публічны суд усяго беларускага грамадзянства пры дапамозе часопісу.

*Ф. Акінчыц.*

27 траўня 1931 г.

# Беларуская хроніка.

## Віленская Беларуская Гімназія

Самымі цэннымі для нас установамі з'яўляюцца тыя школы, якія мы маем.

Там павінны выхоўвацца будучыя грамадзкія дзеячы, якія прыдуць у свой час на зьмену старому пакаленьню. Зразумела, што гэтыя школы павінны карыстацца з боку беларускага грамадзянства як найбольшаю ўвагаю. Яны павінны быць пастаўлены так, каб запраўды іх гадунцы выносілі сьветлыя ўражаньні на ўсё сваё жыцьцё, каб яны выкоўвалі свой характар, каб навучаліся ўсяму добраму і прыгожаму, што дае нам жыцьцё. На вялікі жаль якраз Віленская Беларуская Гімназія ня можа пахваліцца, што яна поўнасьцьцю выконвае гэтае заданьне.

Перадусім там калечацца дзіцячыя душы. Тыя часы, калі ў гімназіі сьвядома талераваліся „радыкальныя“ настроі і моладзь захоплівалася „ветрам з усходу“ мінулі

Насталі іншыя часы і гэты ўсходні вецер павымятаў каля 80 вучняў, скалечаных маральна на ўсё жыцьцё. Кіраўнак „ветру“ мяняўся ў залежнасьці ад „орыентацыяў“ кіраўнікоў, якім мы, бацькі, даверылі сваіх дзяцей...

Мова ідзе аб тых „дзеячох“, якія падчас Грамады памагалі тварыць у мурох гімназіі рознага тыпу „гурткі“, а калі гэтыя „дзеячы“ павярнулі аглоблі—то пачалі праваю рукою разбурваць тое, што тварыла некалісь левая.

Добра, што гімназія ачысьцілася ад нездаровых элемэнтаў, але ня добра тое, што ў свой час у гэтай жа гімназіі і тымі самымі людзьмі тварылася тое, што прынесла потым вельмі сумныя вынікі для вучнёўскай моладзі.

Уся беда ў тым, што кіраўніцтва гімназіі вельмі заангажавалася ў палітыку—якая ўносіць толькі дэмаралізацыю ў вучнёўскае серадовішча.

Ня спынілася гэтая палітыка і цяпер.

Усім вядома, што фактычнымі рэдактарамі „Бел. Звону“ зьяўляюцца вучыцялі Бел. Гім. Р. Астроўскі і Луцкевіч.

І вось гэтыя самыя вучыцелі праз сваю газэту, якую чытаюць вучні, вядуць проста нясумленную барацьбу ні з кім іншым, як з законавучыцелям той жа гімназіі кс. А. Станкевічам.

Усё гэта з вонкавага боку выглядае вельмі дрэнна і мы думаем, што прыносіць непапраўную шкоду для вучнёўскае моладзі, у якой падрываецца пашана і давер да ўсяго пэдагагічнага пэрсаналу наагул.

Здаецца нам, што настаў зусім адпаведны час, каб школьныя ўлады (не гаворачы ўжо пра бацькаўскі камітэт) умяшаліся ў гэтую справу.

Як мы даведаліся цяпер зьмяніўся парадак выдачы грошаў беларускім інстытуцыям. „Раней усе яны атрымоўваліся праз „пасярэдніка“ — цяпер „гэты апошні“ аказаўся зусім непатрэбным і кожная установа атрымлівае грошы самастойна: на гімназію — грошы выдаюцца дырэктару Міхалевічу, на „навуковае“ т-ва атрымлівае з ваяводзтва па 1500 зл. у месяц Ан. Луцкевіч і г. д.

Такі парадак трэба было завесьці даўно...

## Навуковае Т-ва

У кожным грамадзянстве патрэбны такія таварыствы, кія-б рупіліся аб разьвіцьці навукі. Тым балей патрэбны яны ў нас. На вялікі жаль г. зв. Навуковае Т-ва, якое існуець у Вільні, вельмі мала выяўляе сябе з навуковага боку.

Мы ня чулі, каб яно выдала хаця-ж бы адзін друкованы аркуш, прысьвечаны нейкім запраўды навуковым пытаньням, яно ня маець часопісу, ня выдаець ніякіх справаздачаў пра сваю дзеяльнасьць і г. д., ня глядзячы на тое, што ўрад выдаець па 1500 зл, штомесячнай запамогі. — Грамадзянства ведае толькі, што у Навуковым Т-ве сядзіць вядомы Ант. Луцкевіч, якому ўраілася, што ён патрыярх беларускага руху і менш вядомы Самойло, які падчас працэсу Грамады даводзіў, што ён не беларус і нічога супольнага з беларускім рухам ня маець, мала таго — напісаў нават у газэтах „пакаянную“... Трэба аддаць справядлівасьць— запраўды гэты Самойло зьяўляецца тыповым расейцам з ліку тых, якія „от нечего делать“ прымазаліся да беларускага руху.

Кажуць, што падчас прыезду прэзыдэнта, калі Нав. Т-ва на чале з Луцкевічам і Самойлаю яго віталі—польскае грамадзянства вельмі было зьдзіўлена прысутнасьцю гэтага апошняга і запыталася: a co ten jegomość u was porabia? Przecież on niema nic wspólnego z białoruskim ruchem“. Ня ведаем, што адказаў на гэта п. Луцкевіч.

Навуковае Таварыства маець адну інстытуцыю, якая фактычна і зьяўляецца тым, што трымае пакуль што пры жыцьці гэтае Т-ва — такою інстытуцыяю зьяўляецца музэй.

У гэтым музэі нешта робіцца, чаго добра ня ведаець нашае грамадзянства, Луцкевіч нешта купляець, прадаець, зьбіраець ахвяры і г. д.

На працэсе Грамады, адзін са сьведкаў, кіраўнік дзяржаўнага архіву і знаўца справы п. Студніцкі, зусім можа і слушна заўважыў, што гэты музэй фактычна ня зьяўляецца музэем — а ёсьць нічым іншым як „handlem starożytnościami“.

Прыкра была слухаць падобныя словы аб той інстытуцыі, якая павінна быць уласнасьцьцю ўсяго беларускага грамадзянства.

Вінаватым у тым, што Бел. Музэй ператварыўся у нейкую прыватную крамку, зьяўляецца Антоні Луцкевіч, які не публікуець ніякіх справаздачаў і недапускаець ніякага грамадзкага кантролю.

Вінавата і „прыбочная“ гвардыя Луцкевіча, прыкрываючая яго „працу“ на карысьць „беларускай навукі“, якую староньнія людзі называюць звычайнаю спэкуляцыяю старымі рэчамі.

## Бел. Дабрадзейнае Таварыства

Ёсьць у нас і такое Т-ва, якое называецца „дабрадзейным“ і ў якім рэй водзяць вядомыя ўсім „дабрадзеі“ на чале з Луцкевічам і Астроўскім.

Усё „дабрадзейства“ гэтага Т-ва палягае на тым, што нашыя „нязьменныя і карыстаючыяся агульным даверам“ дзеячы ходзяць да ваяводства атрымоўваюць там па 2500 зл. месячна і потым іх расходуюць.

Ніякай акцыі у кірунку зьбіраньня грошаў сярод грамадзянства не вядзецца. Ня чуваць таксама і пра тое, каб калі небудзь была надрукована справаздача пра дзеяльнасьць гэтага Т-ва і пра грашовыя справы. Наагул нашыя „дабрадзеі“ ня вельмі любяць, як відаць, каб публічная апінія ўмешвалася ў „іх“ справы. А між іншым гэтыя справы павінны насіць грамадзкі характар. Дабр. Т-ва утрымоўваець інтэрнат пры гімназіі, дзе кормяць вучняў вельмі дрэнна—і ніхто на гэта не зьвяртае ўвагі. У воссені была думка, каб „дабрадзеі“ адчынілі сталоўку для студэнцтва, але проці гэтага запратэставалі Астроўскі, Астроўская, Луцкевіч і наагул уся гэтая кумпанія, даводзячы, што нашае студэнцтва настолькі некультурнае, што са столоўкі зробіць шынок і г. д. Так і не адчынілі сталоўкі, у якой адчувалася вялікая патрэба і не адчынілі толькі дзякуючы таму, што гэрштыі ад дабрадзейства, не хацелі каб студэнцкая моладзь мела магчымасьць прыглядзецца да усіх „дэталяў“ іхняга „дабрадзейства“. На нашую думку беларускае грамадзянства павінна больш ува кліва прыглядзецца да дзеяльнасьці сваіх дабрадзеяў і дамагацца пэўнага аздараўленьня. Перадусім трэба тую сумму, якая ідзець на інтэрнат, перадаваць на рукі дырэкцыі гімназіі, якая ня мае ця-

пер ніякага ўплыву на матэрыяльныя справы таго інтэрнату, дзе жывуць некалькі дзясяткаў вучняў. Далей трэба дамагацца каб улада, якая выдаець грошы, запатрэбавала ад дырэкцыі гімназіі кштарыс на інтэрнат і згодна з кштарысам выплачвала-б тое, што належыць інтэрнату, а рэшту выдавала-б „дабрадзеям", калі маюць да іх пэўны, „сантымэнт". На нашую-ж думку склад дабрадзейнага Т-ва трэба аднавіць, уліўшы туды сьвежыя сілы і гэткім чынам пазбыцца дыктатуры тае „клікі", якая пачынае не разрозьніваць сваіх асабістых справаў ад грамадзкіх.

## Чаму гэта так?

У Віленскай Белар. Гімназіі адчуваецца патрэба ў некалькіх пакоях, дзе можна было-б разьмясьціць вучнёўскую бібліатэку, пашырыць канцылярыю, бо цяпер яна зьмяшчаецца ў нейкай цёмнай кануры, дзе машыністы псуюць вочы і г. д.

Разам з гэтым наглядаецца там і такая роскаш, калі цэлы умэблёваны салён аддадзены пад прыватнае жыцьцё аднэй асобы, каторая нічога супольнага з гімназіяю ня мае. Салён гэты месьціцца поруч з габінэтам дырэктара і вельмі надаваўся-б да больш мэтаадпаведнага выкарыстаньня. Дзівіць нас чаму гэта дырэктар гімназіі пры такой цеснаце, якая наглядаецца — упусьціў да сябе зусім непатрэбную лёкатарку. Цікавіць і тое, што сколькі было розных візытацыяў з кураторіумэ ніхто не зьвярнуў увагі на гэтае дзівачнае ў мурох школы зьявішча.

## Коопэратыўныя корэсп. завочныя курсы

Увосені мінулага году па ініцыятыве групы студэнтаў-коопэратараў на чале з Тулейко, арганізаваліся коопэратыўныя курсы, якімі заапекаваўся Цэнтрасаюз.

З пачатку праца ішла добра і тая запамога, якая ім была вызначана праз Цэнтрасаюз, больш менш рэгулярна выплачывалася.

Потым, як відаць, гэтыя курсы не ўпадабаліся Луцкевічу і Астроўскаму, дзякуючы чаму запамога пачалася выплачвацца нерэгулярна і наагул яны папалі ў апалу. Ні гледзячы на тое, што некаторыя сябры (прэзыдыюму як напр. Трэпка і Астроўскі залічваюць сябе да „ідэёвых коопэратараў" (прынамсі яны круцяцца на усіх коопэратыўных сходах і з'ездах) яны *ні разу не пацікавіліся працаю гэтых курсаў, ні разу не перапрацавалі тых лекцыяў, якія рассылаюцца па правінцыі курсантам* не напісалі *ані воднага рада па якому небудзь коопэратыўнаму пытаньню.*

Гэтую сумную акалічнасьць можна вытлумачыць толькі тым, што гэтыя курсы арганізаваліся без „благаслаўленьня" непаграшымага нашага „патрыярха" Луцкевіча, якому вельмі не да смаку ўсякая запраўды творчая праца. А між іншым гэтыя курсы варты, каб імі зацікавіцца.

Дадатнім фактам для курсаў зьяўляецца ўжо тое, што яны налічваюць да сотні слухачоў, з якіх каля 40 высылаець рэгулярна аплату.

Курсы аб'ядноўваюць каля сябе наш вясковы актыў, які імкнецца да творчае працы, і гэтым самым пазбываецца апекі ўсіх тых цемных і закулісовых чыньнікаў, якія падбухторваюць наш народ выключна да разбураючай працы.

Варта было-б, каб нашае грамадзянства больш зацікавілася лёсам гэтых курсаў, якія пры пэўных умовах будуць мець у нашым жыцьці аграмаднае значэньне

## Таварыства Беларускае Школы.

Як нам падаюць з правінцыі ў арганізацыях Т-ва Бел. Школы наглядаецца цяжкі ідэолёгічны крызыс і развал.

Значная частка нацыянальна сьвядомых сяброў гэтага Т-ва. даведаўшыся пра вядомыя падзеі на Савецкай Беларусі — дамагаецца выявіць свой голас пратэсту проці ўсяго таго, што там творыцца.

Адначасна з гэтым „кіраўнічыя" колы гэтага Т-ва, як відаць па загаду свайго „начальства" усімі спосабамі стараюцца прыдушыць апазыцыю праўдзючы тую думку, што савецкая улада вядзець барацьбу з контррэвалюцыяю ў постаці нацыянал-дэмократызму—і толькі.

Дачасная паўнамоцная Камісія Т. Б. Ш. не шкадуець вострых мераў проці нацыянальна - сьвядомага элёмэнту і, неправідлова паклікаючыся на § 13 статуту, выключае ўсіх тых, хто стаіць ёй у папярок дарогі.

Гэтакім парадкам быў напрыклад выключаны сябра Баранавіцкай Акр. Управы гр. Тарасэвіч у зьвязу з чым наглядаецца незадаволеньне працаю Д. П. К. сярод сяброў Т. Б. Ш. Баранавіцкага пав. У іншых мейсцох наглядаецца тое самае. На нашую думку даўно пара нашаму арганізаванаму грамадзянству заняцца справамі гэтага Т-ва, кіраўніцтва якога яўна для ўсіх вядзець справу па фальшывай дарозе.

## Як пан Антоні рабіў пазыку ў пана Фабіяна

У беларускіх газэтах былі нейк надрукованы зацемкі пра „пазыку" якую зрабіў п. Антоні. Справа, як мы даведаліся, выглядае так.

Падчас калядных сьвят, б. Сэкрэтар Цэнтрсаюзу Акінчыц, зачыніў свой прыватны пакой на Вострабрамскай 9, ключ палажыў у кішэню і паехаў да хаты.

Калі вярнуўся ў Вільню, то заўважыў, што нехта гасьціў у яго пакоі, капаўся ў паперах і забраў розныя дакумэнты якія датычылі выбараў і некалькі прыватных лістоў у якіх, апісываліся грамадзкія справы на правінцыі.

Маючы на ўвазе „няпэўныя часы" гаспадар пакою у мысьлях сваіх саграшыў на зусім у даным выпадку нявінных „чыньнікаў", якія таксама цікавяцца часам рознымі паперамі...

Пасьля больш уважлівага разгляду сытуацыі „пацярпеўшаму далося ўсталіць, што гэтым „spryciarzem", які патрапіў залесьці ў чужы пакой з падабранымі ключамі—аказаўся вядомы „патрыярх беларускага руху" п. А. Луцкевіч.

На роспыты Акінчыца — дзеля чаго прыпатрэбіліся п. Луцкевічу „пазычаныя" у такі спосаб дакумэнты — „патрыярх" ня даў ніякага адказу. Гэтая цікавая з усіх бакоў гісторыя перапалошыла ў свой час усё віленскае беларускае грамадзянства і заставіла кожнага больш уважна сачыць за сваімі хатнімі запорамі, баючыся падобных „візытаў".

Цікавай зьяўляецца гэтая гісторыя і з боку „пэдагагічнага". „Пазычальнікам", аказаўся вучыцель Бел. Гімназіі, віцэ старшынёю бацькаўскага камітэту якой зьяўляўся гр. Акінчыц.

Ня думаю, каб падобныя ўчынкі чалавека, які зьяўляецца вучыцелем і павінен быць прыкладам для вучняў, мелі дадатні ўзгадаваўчы ўплыў на нашу гімназіяльную моладзь.

## Як Луцкевіч і К-о хацелі зьбеларусізаваць Нямеччыну

Луцкевіч са сваёю кампаніяю, як відаць хацелі пашырыць свой „ўплыў" на суседнюю дзяржаву і з гэтаю мэтаю прыняліся друкаваць падручнікі, якія хацелі адправіць у Нямеччыну вядомаму „грамадзкаму дзеячу" Зузэмілю.

Вельмі пахвальная рэч пашыраць беларускую культуру у Нямеччыне, а магчыма нават і зьбеларусізаваць гэтую краіну Але рэч вось у чым. У сваім „ганаровым" імкненьні яны дапусьціліся зусім неганаровых паступкаў з пункту гледжаньня інтарэсаў прыватнай уласнасьці.

Як нам перадаюць, яны вельмі конспіарацыйна перадрукавалі падручнікі, не запытаўшыся пра згоду зацікаўленых аўтараў.

Як гэта назваць?

Ува ўсякім цывілізаваным грамадзянстве падобныя чыны завуцца л і т э р а т у р н а ю к р а ж а ю. Усё нейк складаецца так, што запраўды каля гэтага Луцкевіча і яго кампаніі круцяцца нейкія брудныя і даволі цёмныя рэчы. Якую роль адыгрвае ў нашым грамадзянстве гэты чалавек—вельмі цяжка адгадаць. У газэтах яго назвалі нейк афэрыстам і ён на гэта не абразіўся.

Запраўды-ж ўся яго грамадзкая „праца" вельмі падобна да звычайных афэраў, якімі так багаты сучасны век.

## Можаце забраць яго да сябе

„Крыніца" даволі арыгінальна зарэагавала на першыя крокі ў кірунку стварэньня новага Культурна-Асьветнага і Гаспад. Т-ва „Аб'яднаньне". Надрукавала напрыклад аб тым—быццам „духоўным айцом" „Аб'яднаньня" зьяўляецца ніхто іншы як Ан. Луцкевіч.

Ня ведаем з якою мэтаю гэта зроблена: можа рэдакцыя хацела скампрамітаваць арганізацыю ў самым яе за-

родку, альбо была дрэнна паінфармавана пра запраўдны стан рэчаў.

Як бы там ня было—мусім адзначыць, што сярод ініцыятараў „Аб'яднаньня" няма ані воднага, які-б, як кажа Крыніца" пра Луцкевіча, прыкрываўся „шапкаю нявідімкаю"

Калі-б аказалася, што „Крыніца" проста зайздросьціць прысутнасьці у „Аб'яднаньні" такога „духоўнага бацькі"—то сьмела магла-б забраць яго да сябе і за гэта напэўна ніхто-б не разазлаваўся.

---

## „Агульны" сход Бацькаўскага Камітэту.

28 траўня адбыўся агульны сход Бацькаўскага Камітэту Віленскае Белар. гімназіі.

На 200 бацькоў (з якіх амаль палова жывець у Вільні) прыйшло нешта каля 28 асобаў.

Вельмі сумным зьяўляецца тое, што справы гімназіі выклікаюць такое малое зацікаўленьне нават з боку тых бацькоў, якія жывуць у Вільні.

На сходы звычайна прыходзяць адны і тыя самыя асобы, якіх можна спаткаць на ўсіх віленскіх беларускіх „урачыстасьцях".

Астроўскім была парушана справа пра чуткі, быццам у касу гімназіі ня ўплываюць поўнасьцю тыя запамогі, якія выдаець урад.

У зьвязку з гэтым было пастаноўлена правесьці на гэтым-жа сходзе рэвізыю прыходнай касавай кнігі, але аказалася, што на сход не зьявіліся нават сябры рэвіз. камісіі дзеля чаго агляд кнігі быў праведзяны звычайнымі сябрамі сходу. Дамаганьне Акінчыца пра тое, каб усю справу адлажыць і перадаць яе на разгляд рэв. камісіі—большасьцю ня было прынята. Перадача справы ў рэв. камісію, як тлумачыў Луцкевіч, магла-б некаторых абразіць.

Доказы Луцкевіча былі настолькі „пераконваючымі," што большасьць з імі пагадзілася...

З „агляду" выявілася толькі тое, што ў працягу ўсіх месяцаў гэтага школьнага году належныя гімназіі сумы (па 2500 зл. у месяц) не паступалі поўнасьцю.

І толькі ў траўні запамога была атрымана праз дырэктара Міхалевіча ў суме 2500 зл. і акрамя таго быў атрыманы, як кажа Луцкевіч, у тым-жа „надзвычайным" месяцы яшчэ нейкі дадатак (ня ўпісаны чамусьці ў касавую кнігу), які калі далажыць яго да сумаў, атрыманых у папярэдніх месяцах—дык дасьць у сярэднім па 2500 зл., г. з. тую як раз суму, якая належыць гімназіі.

Астроўскі, а за ім і Луцкевіч вельмі абураліся на тое, што нехта пашырае чуткі, быццам у касу гімназіі не паступаюць тыя сумы, якія вызначаны ўрадам.

Падстаў да такога абурэньня зусім ня было, бо выявілася што запраўды сумы паступалі вельмі няроўныя (быў напр. месяц, калі гімназія атрымала ўсяго толькі 1000 зл.), што ў сваю чаргу вельмі здёмна адбівалася на яе матар'яльным стане

Новаму складу прэзыдыюма Бацькаўскага Камітэту і Рэв. Камісіі трэба высьвятліць тэтую справу і паставіць яе так, каб за гімназіяю забясьпечыць ней і больш акрэсьляны бюджэт.

Праўду кажучы сход быў скліканы выключна ў мэтах „дэманстрацыйна — рэгабілітацыйных," але мэты сваёй не дапяў.

Ён паказаў толькі, як нядбала вяліся справы старым Прэзыдыюмам і Рэвіз. Камісіяю: гэтая апошняя за цэлы год ні разу не сабралася.

Арганізатарам агульнага сходу, каб давесьці што яны запраўды вядуць справы па грамадзку, трэба было склікаць раней рэвізыйную камісію, а потым ужо прыступаць да дэманстрацыяў, калі наагул адчуваецца патрэба нешта прадэманстраваць.

Гэтага яны чамусьці не зрабілі і дзеля таго „званіць" аб сваіх „трыумфах" бадай ці выпадала-б..

На гэтым-жа сходзе быў выбраны новы склад прэзыдыюму, дзеля таго што стары падаўся да дымісіі.

Выбранымі аказаліся: Багдановіч (атрымаў 25 галасоў), кс. Станкевіч (23 гал.), Астроўскі (20 гал.), Кароль (21 гал.) і Падагель (15 гал). Магчыма, што новы склад Прэзыдыюму Бацькаўскага Камітэту, паложыць канец той брыдкай лаянцы, якая вялася праз газэты некаторымі вучыцялямі гімназіі.

Прыемна было слухаць, як Астроўскі стараўся пакаяцца ў сваіх грахох перад сваімі старымі „ворагамі", якія аказаліся разам з ім у прэзыдыюме Баць. Камітэту. І толькі адзін Луцкевіч, здаецца, не перамяніў сваіх „пераконаньняў", бо стараўся залезьці у „гісторыю," але, як відаць, усім ён ужо настолькі прыеўся, што ніхто не хацеў слухаць „шпіляк" Луцкевіча і, ня даўшы яму давесьці сваіх разважаньняў да „кульмінацыйнага пункту," разыйшліся па хатах.

---

# НАМ ПІШУЦЬ

### Што творыцца у Т. Б. Ш.

(Баранавіцкі павет).

Сярод сяброў Таварыства Беларускае Школы, дзякуючы таму, што большасьць незадаволена „палітыкаю" галоўнага кіраўніцтва, ужо даўно наглядаецца два лагеры.

Той тэрор, які пануе ў Савецкай Беларусі і які скіраваны проці нашага нацыянальнага руху, ня мог прайсьці бяз сьледу. І вось нацыянальна-сьвядомая частка сяброў Т. Б. Ш. пратэстуючы проці ўсяго, што творыцца на Савецкай Беларусі—наражаець сябе на прасьледаваньні з боку галоўнага кіраўніцтва Т.Б.Ш. Як на прыклад можна паклікацца на наступны факт. Толькі дзякуючы таму, што віцэ-старш. [illegible] гр. Тарасэвіч падняў голас пратэсту проці савецкага тэрору, яму прыслалі з Вільні паперу зьмест якой падаю ніжэй:

„Вынятак з пратаколу паседжаньня тымчасовае паўнамоцнае камісі Т.Б.Ш. з дня 11 сакавіка 1931 г.

„Пастанавілі: Тодара Тарасэвіча віцэ-старшыню Баранавіцкай Акружнай Управы Т.Б.Ш, які карыстаючыся сваім становішчам у Акружной Управе, вёў правакацыйную працу на шкоду Т-ва, далучыўшыся да „Цэнтрасаюзу" згодна § 13 статуту выключыць з ліку сяароў Т-ва Беларускае Школы."

Тымчасовая Паўнамоцная Камісія Т.Б.Ш. (два подпісы).

Пададзены факт сьведчыць аб тым, што даўно пара каб нацыянальна-сьвядомая большасьць сяброў Т.Б.Ш. узяла ў свае рукі лёс гэтага Таварыства, выкінуўшы з яго ўсіх закулісовых кіраўнікоў, якія прывялі да занепаду ўсей культурна-асьветнай працы.

*Сябра Т-ва.*

---

## Пісьмо у рэдакцыю.

Паважаны Пане Рэдактар, не адмоўце зьмясьціць у вашай аднаднёўцы наступнае: „Беларускі Звон" № 12, у артыкуле „Паўлюкоўшчына," напісаў сьмешна—наіўны сказ датычна маіх адносінаў да Кс. А. Станкевіча, уважаючы мяне за Хадэка. Гэтым заяўляю, што я да В. Х. Д. не належу і сказ датычны мяне і маіх адносінаў да кс. А. Станкевіча ёсьць наіўнай фантазыяй. Падаючы такую вестку „Бел. Звон" і яго фактычныя рэдактары хочуць унясьці дэзорыентацыю ў нашым грамадзянстве.

Думаю, што папярэдняя практыка гэтае газэты дала аж за шмат падставаў, каб да ўсялякіх сэнсацыйных вестак, падаваных Луцкевічам і К-о адносіцца з пэўнай рэзэрвай.

Вільня 28 V 1931 г, *У. Казлоўскі.*

Рэд.-Выд. Ф. АКІНЧЫЦ. Друкарня У. Знамяроўскага, Вільня, Квашэльная 23